Poczta opłacona ryczałtem.

АДЗІН № КАШТУЕ 25 ГР.

№ 1. ПЯТНІЦА 15 ЛЮТАГА 1929 г. ГОД 6.

# МАЛАНКА

ДВАТЫДНЁВІК САТЫРЫ, ЖАРТАЎ І СЬМЕХУ.





-Dyk čamu heta ciabie wyhnali z kwatery?

-Bo ni zachacieŭ ažanicca na haspadarskaj dačce...

## ДА ЧЫТАЧОЎ.

Ну вось і я праснуўся ўзноў.
Хоць спаў мо' троху і задоўга,
Ну, але гэта ўсё нічога-
Абы быў крэпак і здароў.

Мо' думалі што я прапаў?
Ды не! Я толькі з а д р а м а ў.
Аж тры гады аддаў на гэта,
Цяпер ляту, ляту... Хоць лета,
Цепла і сонца не відаць,
Ну што-ж у таго-ня вечна-ж спаць!

...............

Хоць Нам мароз пячэць у твар,
Хоць на дыханьні ёсьць цяжар,
Хоць дрэнна жыць-плюваць на гэта
Я ЦЬВЁРДА ВЕРУ-БУДЗЕЦЬ ЛЕТА.

А-Ва-Дзень.

## НАВІНЫ.

Вітаю Вас, браты, сястрыцы,
З запасам жартаў і сьмяхот,
Загадкаў, праўды-нябыліцы,
Ды.../не скажу Вам напярод/

............

Навінаў надзвычайных мала:
Сьціх гром..."Маланка" не 1/
чуваць
Ляжуць нагу ей адтапталі,
Як быццам хворая ляжыць.

Маланка

"Крыніцу" ляскаю крывою 2
"Духоўнік хропнуў па баку,
Адно, што "леваю" рукою-
Дык гэта ей і ня ўзнаку.

4

krynica
ХАДЭКі

Спадар-жа „Зьвяз"(я чую)вяжа
Ды нешта доўга-бліска год;
Але казаў ён, як завяжа
Дык павядоміць праз „Народ".



І ў „Хатцы Беларускай" ціха:
„Нябескі",„жоўты" ні крычаць...
Ня ведаю што там за ліха;
Не йнакш прайграліся відаць.




. . . . . . . . . . . . . . . . . . . . . . . . . . .

Ну досыць мне пляскі навіны.
Астаўлю трожу на пазьней,
Во да паўночнае гадзіны
Ня скончу гутаркі сваёй.
Во ёсьць, ах ёсьць аб чым пісаць!
Начы не стала-б ня то дня
-Трэба падпіску прысылаць-
Сьпішу другога „Абадня."

Анвас.



...Ты бедна?

Беларусь. Ты кажуць бедна-
А лясы драмучы?
А гарушкі-валатоўкі,
А пяскі сыпучы?
А балоты?тож багацьце,
/хоць яны й дрыгучы/,
А вазёры з смачнай рыбай...
Ручайкі бягучы...
Шмат царквей, касьцёлаў слаўных,
Арганоў грымлівых;
Многа хатак старадаўных
Курных ды стыдлівых.
А ці мала ў нас смалістых
Дзераўцоў высокіх?
А садоў колькіж цянiстых
Доўгіх ды шырокіх!
Усяго, ўсяго, браточкі,
Ёсьць на Белай-Русі,"
Немагчыма апісаці-
Злічаць не бяруся...

Яж ня ўспомніў шчэ аб птушках,
Не крануў зьвяроўя...
Кажу шчыра: мы багаты
Ну...шмат безгалоўя.

А.В.

-------------

Недагадлівы

-Чаму у цябе, браток, барада чорная, а галава сівая?
-Во недагадлівы! Во барада ад галавы гадоў на дваццаць маладзей.

-------------

Бацька і кавалер.

-Калі васпану мая дачка падабаецца дык бяры яе бяз грошаў.
-Гм...А ці ня можна зрабіць наадварот?



Вучыцель і Трахім.

-Ад душы табе радзіў-бы, Трахім, паставіць пужала, каб птушкі ня псулі гародніны.

-Німа ў гэтым вялікай патрэбы, бо ці я сам ці мая баба заўсягды бываем тутака...

Ц. Вир.



## У ГАСЬЦЁХ.

Калядамі да багатага пана былі запрошаны і ўжо сядзелі за сталом утрох рандатары.

Перад імі яды усякай было на выбар, гарэлкі-таксама.

Пасьля доўгага частаваньня, калі „сівуха" ўжо надаела, пачалі яны прагавіта прыглядацца, як забаўляюцца паны.

-Гляньце толькі, як яны ахвотна пьюць з тых прыгожых бутэлькаў, -казаў цмокаючы адзін.

-Каб спробваць хоць адну, -шапнуў другі.

-Міхась, ты маладзейшы, працягніся ды вазьмі тую бліжэйшую.

-Былі падпіўшы дык пастанаўленне гэтае хутка выпаўнілі: бутэлька з прыгожаю наклейкаю апынулася у іхных руках.

Тры большыя чаркі напоўнілі віном і разам крыкнуўшы: „За здароўе паноў"-хлібнулі...

-Кіслае...нейкае...

-Ніякага смаку...

-Саўсім нестраўнасьцяй пахне, усё роўна як воцат...

-А паны пьюць і хвалюцца.

Пасядзелі памаўчалі рандатары.

-Мусіць варта яшчэ па адней? -насьмела пачаў Міхась.

-Хто яго...можа не абсмакавалі-ся, -адказаў бліжэйшы сябра.

-Спрабуем-жа...дзе наша ні прападала, -згадзіўся трэйці.

І па другой хлібнулі кумпаны.

Гэтым-жа самым часам прахадзіў лёкай каля іх. Угледзіў перад імі на стале прыгожую бутэльку, пры-



станавіўся .

-Што гэта паны ўздумалі воцат піць ды без квашаніны?

-Воцат, а не віно?-здзівіўся Міхась.

-Я так і думаў!..., -казаў плюючы ягоны сусед.

-Бутэлька як з віном а і наклейка як трэба...каб яе агні!

-Наклейка ясна гаворыць па французку, што тут воцат, -сказаў лёкай і адабраў ад іх бутэльку.

Стыдна зрабілася рандатарам.

Разам падняліся і не дзякуючы выйшлі.

Ан-Вас.

---

### Цекавы.

Жыдок бяжыць праз вуліцу. Убачыў групу людзей абгаварваюжых свае інтэрэсы.

Жыдок стаў, усунуўся паміж іх ды уважна прыслухаўся, аб чым гэта яны гаворуць?

Нарэшце махае рукой і бяжыць далей кажучы сам сабе:

-Ах, не дурніце мне галавы.

---

### Прызнаўся.

-Як табе ня стыдна! учора зноў жадзіў п'яны на службу.

-Што ты ! Хто казаў табе?

-Ты -ж учора сам прызнаўся.

-Ха, ха, ха! Ці мала глупства гавора п'яны.

---

### ВАЙНА ПАШКАДАВАЎ



-Што с табой, Мацейка гэтак ты абвязаны?

-Мая баба кінула гарлачом у мяне...разьбіла лабоўку.

-Няўжо-ж ты ня мог схіліць галавы як гарлач ляцеў?

-Чаму ня мог! Але, тады-б ён у вакно паляцеў...

М.Г.

---

-Пане вучыцелю. Ваш сабака сягоньня зьеў мой палудзень.

-Гм...Гэтак! Я-ж яму ва гэта да бечара нічога ня дам есьці.

Г.М.

Падарожны з білетам трэйцяе кляса забраўся у вагон першае.

-Ого!-зьдзівіўся ён, -які цяпер шык у вагонах трэйцяе клясы.

Na padatki.... Rys.M.Harm.

0000000000000000000000000000000000000000000000000000000000000

### ТЫДЗЕНЬ ГУЛЬТАЯ.

У нядзелю не працуе,
Шчыра-шчыранька сьвяткуе;
Панядзелкам спачывае
Ды нядзелю ўспамінае.
У аўторак думаць трэба,
Што рабіць,у чым патрэба.
Серадою разважае,
Дзела-працу выбірае.
У чацьвер зьбірае сілы-
Каб ня лопнулі дзе жылы.
Ловіць пятніцай ахвоту-
Заўтра пойдзе на работу.
У суботу-ж падлічае
Што рабіў дзе,ды што мае.

Улад-Ініцкі.

---

Пры шлі хутчэй падпіску на „АВАДНЯ",
да гэтага-ж падгавары суседа.

---

Журнал прачытай сам ды ня рві,а
дай пачытаць суседу.Читаньне-асьвета.

### Апошняя гадзіна...

-Ох,здаецца мне,што незадоўга
праб'е мая апошняя гадзіна.
-Што ты!Ня бойся:гадзіннік папсуты стаіць.

---

### Добрая рада.

Доктара разбудзілі уночы:
-Панок,мой сын толькі-што праглынуў мыш!што рабіць?
-Скажыце каб хутчэй праглынуў ён ката,а мне дайце спакой.

---

Цыр.Вар.

### Добрая жонка.

- Ведаеш,кумок,мая жонка надта добрая кабета:яна нават боты мне сьцягвае.
- Ціж гэтак?!..а калі яна гэта робіць?
- Тады,як я хачу ісьці у карчму.

Тыдзень п'яніцы.

У нядзелю п'е, лайдачыць,
Сьвету Божага ня бачыць.
Панядзелкам сьпіць пад плотам
І рыгае прост салотам.
У аўторак, як прасьпіцца,
Пачынае ўжо хмяліцца.
Серада-ідзе пахмельле-
Выпівае для вясельля.
П'е ў чацьвер без перадышкі,
Ліжа шклянкі і кілішкі
І, чакаючы нядзелькі,
Сушыць ў пятніцу бутэлькі.
У суботу-ж п'е, гуляе,
Бо ўжо тыдзень прапівае.

Улад-Ініцкі.

Пунктуальны.

-Міхася, куды ты бяжыш?

-На хаўтуры кляснага вучыцеля, бо ён надта злуецца калі хто спазьніцца.

-----------

Дагадзіў.

-Служай, цыгане, ты мне прадаў сьляпую кабылу.

-Во чудак! Табе-ж лепей: падасі ей салому, а яна будзець думаць што сена.

------------

Хто што мог.

Бязрукі абакраў сьвіран ды злажыў крадзеныя рэчы горбаму за пазуху, а сьляпы гэта падгледзіў і глухі падслухаў, а нямы закрычаў: лавіце людзі, дык бязногі хутчэй на ўздагонкі.

------------ 7. б.



Жонка уцякла ад мужа. Праз нейкі час яна вярнулася назад і просіць мужа, каб дараваў. (рис)

За тое, што ты уцякла ад мяне, -казаў муж, -я магу табе дараваць, але за гэта, што вярнулася, я табе не дарую.

У рэстаране.

-Кельнер. За гарэлку і закуску належыцца вам трынаццаць злотых, а зачым на рахунку чатырнаццаць?

-Бо я думаў, што пан баісься трынасткі.

--------------

Перад абедам.

-Ганна! Колькі разоў казаў табе: не мачы свае пальцы у страве-брыдка есьці.

-Я толькі павука выцягнула...

Сур. Жарга.




Прадаюцца апошнія комплекты першага беларускага ілюстраванага гумарыстычнага журнала „АВАДЗЕНЬ" Каштуе с перасылкай тры злот.

Адрэс: Wilno, Wielka 3 m.10

Redakcja „Авадня".

## Ішло аб грошы.

-Ці ты чуў, што Мамэрт ажаніўся?

-Праўда?. А сколькі узяў?

-Як сколькі?. адну дзеўку узяў.

-Ды яму не аб дзеўку ішло, а аб грошы, якія хацеў узяць пры ей.

---

## Як гэта...

Вінцук добра ужо падпіўшы( аж вочы яму зацягнула імглой), прышоў да цьвярозага суседа і кажа:

-Паўлюк а Паўлюк. як гэта выйшла, што я выпіў, а ў цябе вочы пасалавелі?.

Хто прышле фатаграфію з датай урадзінаў атрымае ПАДРОВНЫ АНАЛІЗ характару і кароткія прадсказаньні аб будучыні. Картку не вярну.

Аналіз высылаю па атрыманьні трох злот. Графолёг Васілеўскі.

Adres. Wilno, Wielka 3 m.10.

## Наша пошта

Падпіска на Авадня атрымана: ад гр.гр. Вернікоўскага. Губарэвіча, Новіка, Ботвіча, Карпейчыка, Самахвала, Цылінскага па 1 зл.50 гр. ад гр. Саньчука 3 зл.

Дзякуем. Авадзень будзе высылацца акуратна.

А. Зеленкевічу, Велюцк, Толкачу, Субочу, Стэфановічу, Чэховічу, Луцкевічу і другім пробныя нумары журнала высланы, -чакаем падпісных грошы.

Гр. І.В. у Сьвіры. Дзякуем за пажаданьні.

Гр. Галубоўскі. Пішыце больш. Намаўляйце знаёмых да падпіскі.

Усіх мммммм хто можа добра рысаваць і пісаць сьмяхотлівыя рэчы просім прысылаць свае творы у Рэдакцыю „АВАДНЯ".

Рэдакцыя гэтым паведамляе, што ніякіх даплатных лістоў /без марак/ яна ня будзе прынімаць.

Прыпамінаем заадно, што на звычайны ліст наклеіваць трэба 25-гр. марку.

Пыталіся раз сяляне у цыгана:

-Якой ты, бацька, веры?

-За грошы якой хочаш.

М. Ст.

Адрэс Рэдакцыі: Wilno Wielka 3 m 10. PADPISKA na nod 6 zl; na paunoda 3 zl.; na try miesiacy 1 zl 50 nr. Za hranicu na nod dwa dalary.

Рэдактар - Выдавец Антон Васілеўскі.

Litogr. Maca, ul. Dabrowskiego 3 w Wilnie.